# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 47 (1186) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 19 ЛІСТАПАДА 1978 г. ЦАНА 60 гр.



*У асеннім лесе.* *Фота Я. Целушэцкага.*

## У найбольшым гуртку БГКТ

Ва ўсёй нашай арганізацыі, Беларускім грамадска-культурным таварыстве, пачаўся новы 1978/79 культурна-асветны сезон. Заўсёды, калі нам даводзіцца стаць на парозе новага, неяк міжволі цягне аглянуцца назад, на ўжо зробленае, і прыкінуць вокам на тое, што ў бліжэйшым ці больш адлеглым часе зрабіць неабходна. У такой іменна атмасферы дзелавітасці адбываўся 29 кастрычніка г.г. сход у гарадскім гуртку БГКТ у Беластоку. Абмяркоўваць жа было што, бо ў наш гуртук уваходзіць каля 700 членаў і ён з'яўляецца найбольшым ва ўсім нашым таварыстве, але і праблемаў у працы мае, бадай, таксама найбольш.

У апошні час наш гурток правёў шэраг мерапрыемстваў. Урачыста адзначылі мы 60-годдзе Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, арганізавалі ўрачыстую вечарыну з нагоды Дня Савецкай Арміі, адзначылі свята 1 Мая, наладзілі ўрачыстасць з нагоды Міжнароднага дня жанчын, арганізавалі навагодні баль для дарослых і ёлку для дзяцей, адбыліся ў нас і іншыя ўрачыстасці. На большасці з іх нашыя актывісты выступалі з адпаведнымі дакладамі, адбывалася багатая мастацкая частка з абавязковым удзелам нашых харавога і тэатральнага калектываў, танцавальная вечарына. У такіх урачыстасцях удзельнічала звычайна ад 100 да 200 чалавек. Праводзім мы іх сістэматычна, яны ў нас сталі ўжо традыцыйнымі.

У нас даволі цікава праходзяць сустрэчы на самыя разнастайныя тэмы, арганізуем мы іх сама меней 1-2 разы ў месяц. І так, выкладчык Беластоцкай медыцынскай акадэміі праф. др В. Чэчуга расказваў і адказваў на пытанні аб ахове прыроды і навакольнага асяроддзя, працаўнік Інстытута павышэння кваліфікацый настаўнікаў і асветных даследаванняў др У. Юзвюк — аб асноўных прынцыпах і праблемах уваходзячай у жыццё рэформы асветы, працаўнік беластоцкага філіяла Варшаўскай вышэйшай тэатральнай школы дац. др У. Паўлючук — аб светапоглядзе чалавечай адзінкі ў розных грамадскіх фармацыях, кіраўнік кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта др А. Баршчэўскі — аб народнай абраднасці асенне-зімовага цыкла на Беларусі і Беласточчыне, суддзя Ваяводскага суда мгр В. Склубоўскі — аб справах прававой апекі над сям'ёй і моладдзю, журналісты „Нівы" Я. Целушэцкі і М. Гайдук — аб працы журналіста і іншыя. На кожнай такой сустрэчы бывае ад 40 да 100 чалавек. Не менш бывае слухачоў і на аўтарскіх сустрэчах з літаратарамі з аб'яднання „Белавежа" і пісьменнікамі з іншых асяроддзяў, якія мы праводзім даволі часта. Выступалі ў нас А. Барскі, В. Швед, Я. Чыквін, С. Яновіч, Ю. Геніюш і іншыя, часам цэлай групай. Такія сустрэчы творцаў на роднай мове са сваімі чытачамі вельмі каштоўныя, бо на іх адбываецца творчая канфрантацыя, якая пашырае і умацоўвае ўзаемнае зразуменне паміж пішучымі і чытачамі. У нас гасцяваў таксама А. Лойка — сучасны беларускі савецкі паэт.

У нашым гуртку зусім нядрэнна развіваецца мастацкая самадзейнасць. Без нашых „Каласкоў" не абыходзіцца ніводная ўрачыстасць у Беларускім грамадска-культурным таварыстве. Мала ў чым уступае ім і наш тэатральны гурток. Нашыя спевакі і акцёры займаюць добрыя месцы на аглядах „Беларуская песня" і тэатральных калектываў, высокае выканаўчае майстэрства ўласціва асабліва выступленням Любы і Алі Гаўрылюк, Валі Шусты, Зоф'і Харкевіч і іншых.

Арганізуем мы таксама выстаўкі і фотавыстаўкі аб дзейнасці БГКТ, аб жыцці БССР, народным рукадзеллі беларусаў Беласточчыны і г.д. Маем мы таксама багаты выбар беларускіх савецкіх газет і часопісаў, рэгулярна экспануем „Ніву" і „Зорку". У нашай бібліятэцы ёсць звыш 3 тысяч тамоў беларускіх кніг.

Здаецца, што пачатыя ў мінулым годзе штомесячныя чацвяргі для пенсіянераў у нашым клубе ўжо прыняліся, палюбіліся нашым старэйшым сябрам, сталі традыцыйнымі. Былі на іх спатканні з літаратарамі, лектарамі, дзеячамі БГКТ.

Яшчэ многа чаго добрага дзеецца ў нашым гуртку. Але ці гэта можа задаволіць нашых членаў і праўленне гуртка? Напэўна, не!

Нельга ж лічыць задавальняючым дагэтуляшні ўдзел членаў нашага гуртка ў мастацкай самадзейнасці. У абодвух нашых калектывах — харавым і тэатральным — удзельнічае ўсяго два дзесяткі асоб. Нам жа пад сілу арганізаваць у некалькі разоў большыя калектывы. Мы маглі б таксама стварыць арыгінальны фальклорны калектыў з удзелам моладзі, сярэдняга ўзросту людзей і асоб старэйшых. Ставяць жа вельмі цікавыя фальклорныя пастаноўкі калектывы з Меляшкоў, Арэшкава і іншых мясцовасцей, дзе ў гуртках БГКТ значна менш членаў. А мы што, горшыя? Марым мы таксама і пра эстрадны калектыў, які б выкарыстоўваў у сваёй праграме багацце беларускага песеннага фальклору Беласточчыны. У нашым гуртку ёсць таксама магчымасць стварыць і танцавальны калектыў. А тэатр паэзіі?

(Працяг на стар. 4)

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

Сядзім насупраць сябе. За акном восень зрывае вопратку з дрэў, раз-пораз кідаючы мокрым лісцем у шыбіну. Уладзімір Бартнічук углядаецца туды, але па ўсім адчуваецца, што не бачыць ён ні разгулянай восені, ні трапечучыхся на шыбе лістоў. Данёсся шум лесу. У яго вачах раптам нешта змянілася.

— Расказаць... Ад чаго вам тут пачаць? Самае галоўнае з майго жыцця вы ж ужо ведаеце, ну а аб тым... Тады




таксама шумеў лес... — і пачаў у думках гартаць сваё прошлае.

Уладзімір Бартнічук нарадзіўся ў 1911 годзе ў вёсцы Баравікі. Да 27 год быў дома, працаваў на гаспадарцы. Толькі ў 1938 годзе пайшоў, як і большасць людзей гэтых ваколіц, працаваць на чыгунку ў Чаромсе. Там застала яго вайна. Там распачалося яго супрацоўніцтва з партызанскім атрадам „Чэкіст". Быў сувязным.

— Так... — пачынае ўспамінаць. — „Чэкістам" камандаваў Рыгор Каравай. Сам ён родам з нашых ваколіц, са Ставішчаў, што тут ля Чаромхі. Працавалі разам з ім на чыгунцы. І вось як у сорак першым годзе прыйшлі немцы, ён і яшчэ двое пайшлі ў лес. Да іх далучыліся ўцёкшыя з нямецкіх лагераў савецкія салдаты і арганізаваўся атрад.

Супрацоўніцтва Ул. Бартнічука з гэтым атрадам распачалося ад самага пачатку яго ўзнікнення, як толькі пайшлі ў лес. Вопратка, ежа, звесткі пра ворага. Ужо ў 1942 годзе атрад налічваў 45 асоб. Трэба ж апрануцца, паесці, а часам хворага ці параненага пераховаць.



— Памятаю, аднойчы прынеслі да мяне раненага партызана, Бадаўца Васіля, — гаворыць. — Родам ён з Рагачоў, о тут, у Мілейчыцкай гміне. Лячылі. Але як пачаў крыху хадзіць, дык заявіў, што пойдзе. Пайшоў, абапіраючыся на кулі. І нехта падказаў немцам. У Вульцы Нурэцкай у яме ад бульбы знайшлі. Каб не папасці ў рукі немцаў, застрэліўся. Восень гэта была, так як цяпер, — сказаў і задумаўся.

Уладзімір Бартнічук не толькі дапамагаў атраду, хадзіў ён разам з імі на аперацыі. Вялі дыверсію на чыгунцы, на адрэзку ад Нурца да Чаромхі — дваццаць адзін кіламетр. Узарвалі там аж васемнаццаць варожых цягнікоў.

— Памятаю апошні гітлераўскі цягнік, які падарвалі мы, — зноў пачынае гаварыць. — Немцы ўжо ўцякалі. Усё забіралі. Нагрузілі цэлы састаў і ехалі. Ехалі на два паравозы. Мы тады падвойную міну падлажылі. Узарвалася на другім паравозе. Ай, што тады нарабілася! На тры дні загарадзілі дарогу.

Працяг на стар. 4

# УВАГА, ЧЫТАЧЫ!

Пара аднавіць падпіску „Нівы“ на 1979 год. Прымаюць яе аддзяленні РСВ „Прэса-Кніга-Рух“ і пошта ў цэлай краіне да 25 лістапада 1978 г. Нумар індэксу „Нівы“ ў цэнніку: 36670 (Informator o cenach prasy polskiej na rok 1979).

**ЦАНА ПАДПІСКІ:**

**на год — 28 зл. 80 гр.**
**на паўгода — 14 зл. 40 гр.**
**на квартал — 7 зл. 20 гр.**

Адзінкі аграмаджанага сектара народнай гаспадаркі, установы, арганізацыі і ўсялякага роду прадпрыемствы заказваюць падпіску ў мясцовых аддзяленнях РСВ „Прэса-Кніга-Рух“, у мясцовасцях, у якіх гэтых аддзяленняў няма — у паштовых установах.

Індывідуальныя чытачы аплачваюць падпіску ў паштовых установах і ў пісьманосцаў.

Падпіску з даручэннем высылкі за граніцу прымае: RSW „Prasa—Książka—Ruch”, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.

Падпіска з даручэннем высылкі за граніцу вышэйшая за краёвую на 50 працэнтаў.

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ВОЗЕРА НА БРАГІНЦЫ

У вярхоўі невялікай рэчкі Брагінка ў Лоеўскім раёне хутка раскінецца Днепра-Брагінскае вадасховішча. Яно будзе адным з буйнейшых на Гомельшчыне. Яго плошча 968 гектараў.

Новае вадасховішча дазволіць увільготніць і арасіць землі ў басейнах рэк Брагінка і Пясчанка.

Днепра-Брагінскае вадасховішча — складанае гідратэхнічнае збудаванне. У яго ўваходзяць помпавая станцыя, водапаводзячы канал, водаразборныя канструкцыі, агараджальная дамба і шэраг іншых аб'ектаў.

Тэхнічную дакументацыю на будаўніцтва вадаёма распрацаваў праектны інстытут „Белгіправадгас“.

### У ТЭТЫМ ТЫДНІ

**265 гадоў назад**

24 XI 1713 нар. Лорэнс Стэрн, англійскі пісьменнік, адзін з заснавальнікаў сентыменталізму ў літаратуры.

**150 гадоў назад**

19 XI 1828 пам. Франц Шуберт, аўстрыйскі кампазітар, адзін з выдатных прадстаўнікоў музычнага рамантызму. У цэнтры яго творчасці вакальная лірыка (больш за 600 песень).

**120 гадоў назад**

20 XI 1858 нар. Сельма Лагерлёф, шведская пісьменніца, лаўрэат Нобелеўскай прэміі.

**85 гадоў назад**

20 XI 1893 нар. Марыя Яснажэўская-Паўлікоўская, польская паэтэса.

**70 гадоў назад**

19 XI 1908 нар. Мікола Засім, беларускі савецкі паэт.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE”**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

Wydawca: RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 28 zł. 80 gr. Prenumerata ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 2343 Nakład 7.840 egz. N-4



*Брэст. Жыллёвае будаўніцтва.* *Фота В. Рудчыка.*

ДОБРЫ ДЗЕНЬ, БЕЛАРУСЬ!

# ПА ДАРОЗЕ Ў ПРУЖАНЫ

**Качур Іван Раманавіч** — сакратар Пружанскага раённага камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, чалавек, якога добра ведаюць у Гайнаўцы і Белавежы, якога і мне даводзілася ўжо раней сустракаць у час штогадовых супольных мітынгаў насельніцтва прыгранічнай паласы.

І таму я не таю сваёй радасці, калі таварышы ў Брэсце запрапанавалі мне паездку ў Пружаны. Было гэта ў пачатку кастрычніка. Пагода стаяла дажджлівая. Нягледзячы на гэта, я з цікаўнасцю ўзіраўся ва ўсё, што траплялася нам па дарозе на амаль 90-кіламетровым шляху з Брэста ў Пружаны. Перш за ўсё кідалася ў вочы шмат агульнага з тым, што даводзіцца нам бачыць у вёсках пад Гайнаўкай і ў Белавежы. Гэта ж па-суседску, недалёка ад дзяржаўнай граніцы. Асабліва адносіцца гэта да традыцыйнага жыллёвага драўлянага будаўніцтва. У нас і ў іх сялянскія хаты з выгляду амаль аднолькавыя. Толькі няма такіх прывычных для нас гумнаў і палёў, парэзаных на палоскі або на невялікія дзялянкі і з рознымі сельскагаспадарчымі культурамі. Там сялянская сяліба — гэта жылы дом, невялікая прыхатняя дзялянка, агародчык, нейкі хлеўчык і ўсё. Далей распасціраюцца шырокія палі, якія цягнуцца цэлымі кіламетрамі — аж па край далягляду.

За Высокім — гэта мястэчка ў Камянецкім раёне — шафёр сцвярджае, што не хопіць яму бензіна. Пад'язджаем на заправачную станцыю, а там — божа мой! — чарга, што і за гадзіну часу не справішся. Аказваецца, першынство на запраўку маюць грузавікі, што заняты на ўборцы бульбы. Усім іншым трэба чакаць.

— Не, мы чакаць не будзем — сцвердзіў шафёр і паімчаўся ў першы калгас, які трапіўся нам па дарозе. Там без клопату заправіў ён сваю „Волгу“, сказаў „дзякуй“ старшыні калгаса і мы адправіліся ў дарогу.

— Вось і Пружаны, — апавясціў сябра-журналіст з брэсцкай абласной газеты „Заря“, які суправаджаў мяне ў гэтай паездцы.

Я ведаў, што гэта адзін са старэйшых гарадоў на тэрыторыі Беларусі. Карэнні яго гісторыі ў XV стагоддзі. Асабліва славіліся там **Пружанскія крамы** — цагляная будоўля з канца мінулага стагоддзя, якую пасля вайны дбайна адбудавалі як архітэктурны помнік.

Пружаны гэта ад 1940 г. раённы цэнтр, горад тыпу нашага Бельска або Сямятыч. Нейкіх 15 тысяч насельніцтва. Сябры-спадарожнікі паказалі мне яшчэ шматлікія помнікі, якімі ўпрыгожаны Пружаны. Крыху даўжэй спыніліся мы ля помнікаў лётчыку Сцяпану Грудзімаву і Веры Харужай.

— Чаму якраз гэтым людзям пабудавалі ў Пружанах помнік? — зацікавіўся я.

— Вера Харужая, — гавораць мае сябры, — наш нацыянальны герой. Вось якраз нядаўна мы адзначалі 75 гадавіну з дня яе нараджэння. Тут справа ясная. Амаль кожны горад на Беларусі мае або помнік Веры Харужай або вуліцу яе імя.

— А лётчык Грудзімаў?

— Ён загінуў у баях, абараняючы горад перад нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў першыя гадзіны Айчыннай вайны. У пяць гадзін раніцы ў нядзелю 22 чэрвеня 1941 года ён са сваёй эскадрыллю ўступіў у паветраны бой з варожымі бамбардзіроўшчыкамі. Адзін з іх збіў кулямётнай чаргой, а другі — тараніў. Быў гэта адзін з першых таранаў у гісторыі другой сусветнай вайны. Гэта і ўвекавечвае наш помнік.

На плошчы перад будынкам райкома, сярод клумбаў кветак і пажаўцелых, у асенняй вопратцы дрэў — яшчэ адзін, але самы важны помнік горада Пружаны, помнік **Леніну**. Побач лозунгі і стэнд, якія апавяшчаюць вынікі сацыялістычнага спаборніцтва за дастойную сустрэчу 60 гадавіны Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Ад гэтага і пачынаем нашу гутарку з сакратаром райкома. Таварыш Качур заяўляе:

— Працоўныя Пружан і Пружанскага раёна паспяхова выконваюць свае абавязацельствы ў гонар 60 гадавіны БССР. Магу тут, для прыкладу, назваць нашы абодва заводы па перапрацоўцы фруктаў і агародніны, адносіцца гэта таксама да маслазавода і хлебакамбінатаў у Пружанах і Ружанах. Іх калектывы ўжо рапартавалі аб выкананні сваіх гадавых планаў. Тое ж магу сказаць і пра будаўнічыя арганізацыі. Вось толькі што аддалі мы ў карыстанне чарговы жылы корпус для 60 сем'яў.

І ў гэтую хвіліну зазваніў тэлефон.

— Добра, ужо еду, — заявіў сакратар і растлумачыў нам, што яму пара адпраўляцца на граніцу, каб абмеркаваць з польскімі сябрамі з Белавежы і Гайнаўкі ўсе праблемы чарговай сустрэчы насельніцтва прыгранічных раёнаў. На гэты раз з нагоды 35 гадавіны Войска Польскага.

Нашу гутарку з сакратаром Качурам аб справах Пружанскага раёна давялося перакласці да наступнай сустрэчы.

**Віктар Рудчык**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“**

**Беражыце старыя рэчы! ● Бярвіха ● Мяшок, поўны багацця, адкрывае наш спецыяльны карэспандэнт у Пружанах ● Хрысціны ● Якія павінны быць беларускія радыёперадачы? ● Піліп Саскі крэкча на вучобу ● Весткі з Палічнай, Дубіч Царкоўных, Супраслі, Гайнаўкі, Кнаразоў, Парцава, Чаромхі, Нараўкі, Ласінкі ● Калі сніцца фурманка з жытам ● Кашуля на добрую ноч ● Кастуся пужае Лайдакевіч ● Песня** „Do zakochania jeden krok”.

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 18 XI** — 6.00 TTR. Mat. 6.30 Fiz. 9.00 Dla kl. VIII Nauka o czł. 12.45 TTR. Upr. rośl. 13.25 Mech. rol. 14.40 Orbita. 15.10 Dziennik. 15.20 Obiektyw. 15.40 Dzień dobry, tu Telewizja! 16.00 Latarnia czarnoksięska. 16.30 Testament Orfeusza — fr. dramat poetycki. 18.05 Magazyn motor. 18.30 Polsce i Partii. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Shenadoah — western ameryk. 22.20 Mała antologia kabaretu. 23.05 Dziennik.

**Niedziela 19 XI** — 6.15 TTR. Upr. rośl. 6.45 Mech. rol. 7.15 Nasze spotkania. 7.35 Now. w domu i zagr. 8.00 Alarm przeciwpoż. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Drogi i rozdroża II Rzeczypospolitej. 11.05 Polskie bitwy. 12.20 Dziennik. 12.35 Rolnicze rozmowy. 13.00 Kartki z 35-lecia. 13.05 Tylko w niedzielę.

**Poniedziałek 20 XI** — 12.45 TTR. Upr. rośl. 13.25 Mech. rol. 15.30 NURT — mat. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu Telewizja! 16.50 Zwierzyniec. 17.20 Filmy Julija Rajzmana: Ostatnia noc — radz. dramat rew. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.20 Kto jest kto? — teletur. 23.00 Dziennik.

**Wtorek 21 XI** — 6.00 TTR. Upr. rośl. 6.30 Mech. rol. 9.00 Dla kl. IV Geogr. 10.00 Dla kl. I—III Czerwone, żółte, ziel. 11.05 Dla kl I Mat. 11.30 Zakochany D'Artagnan — film fr. 13.25 TTR. J. pol. 14.00 Fiz. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu Telewizja! 16.50 Studio Mł. 17.25 Interstudio. 17.55 Sonda. 18.25 W kraterze Ngorongoro — ser. przyr. pt. „Raj zwierząt”. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Dni Turbinów — odc. III ser. ZSRR. 21.40 Świadkowie. 22.00 Camerata. 22.30 Dziennik. 22.45 Rozmowy o sztuce.

**Środa 22 XI** — 6.00 TTR. J. pol. 6.30 Fiz. 9.00 Dla kl. VII Chem. 10.00 Fiz. 12.45 TTR. Hist. 13.25 Chem. 15.30 NURT — naucz. pocz. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu Telewizja. 16.50 Entliczek-słowniczek. 17.15 Los. Małego Lot. 17.25 Ludzie uparci — pr. publ. 18.05 Spoza gór i rzek. 18.35 Między nami jaskiniowcami — ser. USA. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Kino Interesujących Filmów: Wyrok w Norymberdze — ameryk. dramat polit. 23.25 Dziennik.

**Czwartek 23 XI** — 6.00 TTR. Hist. 6.30 Chem. 8.10 Dla kl. VII Zool. 12.55 Dla kl. I—IV lic. J. pol. 13.25 TTR. Mat. 14.00 Biol. 15.30 Co dalej maturzysto? 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu Telewizja. 16.50 Czwartek TDC. 18.05 Dom i my. 18.25 Rep. wojskowy. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Zaginęła dziewczyna — czech. dramat krym. 22.15 Pegaz. 23.00 Dziennik.

**Piątek 24 XI** — 6.00 TTR. Mat. 6.30 Biol. 9.00 Dla kl. V Geogr. 10.00 Dla kl. VIII Wych. ob. 11.05 Dla kl. I—III lic. Wych. tech. 12.45 TTR. Mat. 13.25 Fiz. 13.55 Red. szk. zap. 15.30 NURT — ped. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.50 Piątek z Pankracym. 17.15 Klinika zdrowego człowieka — pr. oświat. 17.50 Pan na Ratuszu — odc. VIII ser. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Co robisz Anno — ang. dramat obycz. 21.25 Świat, ludzie, idee. 21.55 Koncert Wielkiej Ork. Symfonicznej PRiTV w Katowicach. 22.45 Dziennik.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 17 XI** — 7.40 Film fab. 8.50 Koncert. 17.35 Śpiewa N. Tkaczenko. 18.10 Film fab. 19.30 Konkurs młodych wykonawców.

**Sobota 18 XI** — 10.10 Przegląd międzynar. 12.50 Konkurs młodych śpiewaków. 15.25 Śpiewa R. Ibragimow. 17.15 Opera.

**Niedziela 19 XI** — 6.55 Koncert bandurystek. 9.00 Film fab. 12.00 Spektakl. 14.15 Panorama międzynar. 15.00 Koncert. 16.15 Hokej. Saławat Jułajew — CSKA. 18.00 Klub film. 19.30 Wieczór autorski M. Tanka. 20.30 Festiwal filmów Białoruskiej TV.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).

## КІНО

**Białowieża** Trzpiotka — radz. 21—22. Woda życia — radz. 23—24. Złodziej samochodów — radz. 25—26.

**Bielsk Podl.** Zapamiętajmy to lato — radz. 20. Zaufanie — radz. 21—22. Tabor wędruje do nieba — radz. 23—24. Wniebowstąpienie — radz. 25—26.

**Czyże** Noc nad Chillie — radz. Szał — ang. 22—26.

**Gródek** Trzydzieści trzy — radz. 25—26.

**Hajnówka** Mimino — radz. 20. Ballada o żołnierzu — radz. 21—22. Eskadra czuwa — radz. 23—24. Morze w ogniu — radz. 25—26.

**Michałowo** Wyzwolenie cz. III — radz. 21—22. Apel odważnych — radz. 23—24. Yuryko moja miłość — radz. 25—26.

**Milejczyce** Gorący śnieg — radz. Znak Zodiaku — pol. 22—26.

**Narew** Step cz. I i II — radz. Dowódca łodzi podwodnej — pol. 22—26.

**Narewka** Gra o jabłko — czes. Kochaj albo rzuć — pol. 22—26.

**Nurzec** Krótkie wakacje — wł. 21—22. Lato z kowbojem — czes. 23—24. W gwiezdnym pyle — NRD 25—26.

**Orla** Oskarżeni o zabójstwo — radz. Płonąca tajga — radz. 22—26.

**Rajsk** Szczęście Anny — radz. Za rok, za dzień, za chwilę — pol. 22—26.

 

# У шчаслівай сям'і



Сабраліся ўсе разам пад дахам старэнькай хаткі. Бацькоў пасадзілі на ганаровым месцы, якое нашы дзеды-прадзеды называлі покуцем. Да сёння яшчэ асталіся там гэтыя самыя іконы, якія 50 гадоў таму назад былі сведкамі першага вяселля Андрэя і Ганны Буракоў з вёскі Кошкі ў Арлянскай гміне.

Іх дзеці, а таксама гмінная ўлада хацелі наладзіць гэтую ўрачыстасць у іншым, болей прасторным і лепш абсталяваным памяшканні. Аднак дзядзька Андрэй рашуча заявіў:

— Нікуды я не пайду і не паеду. Я тут жаніўся 50 гадоў таму назад і тут буду спраўляць сваё **залатое вяселле.**

І сапраўды, з гэтай старэнькай хаткай звязаны ўсе радасці і турботы дзядзькі Андрэя.

— Усяго давялося спрабаваць, — гаворыць ён. — Бацькі мае загінулі ў бежанцах. Пасля першай сусветнай вайны вярнуліся мы на радзіму круглымі сіратамі. Бацькоўская хатка, вось гэтая хатка, — дадае дзядзька Андрэй, — шчасліва асталася, але без вокан і дзвярэй. Нават зімой басанож мы хадзілі. Каб не загінуць ад холаду і голаду, давялося ісці ў батракі. Я папаў да аднаго шляхцюка за Бранскам. Круглы год служыў яму за аднаго бычка... Толькі было гэта так даўно, навошта ўспамінаць... Давайце, я вам лепш паспяваю...

І пачаў ён доўгі рускі раманс пра каханне, у якім з асаблівым націскам паўтараў словы: *„Поцелуй мой застыл у неё на устах...“*

— Тата, раскажыце пра Барадзіно, — папрасіў сын-афіцэр. І 75-гадовы бацька пачаў чытаць па-памяці:

*„Скажи-ка, дядя, ведь*
*не даром*
*Москва, сожжённая*
*пожаром,*
*Французу отдана...“*

Доўга яшчэ, доўга гучала ў старэнькай хатцы гэтая Лермантаўская паэма пра барадзінскую бітву з 1812 года. Дзядзька Андрэй вывучыў яе яшчэ ў царскай школе і памятае па сённяшні дзень.

— Як вы пажаніліся? — звяртаюся я да цёткі Ганны. Яна крыху старэйшая за мужа.

— Спадабаўся ён мне, — кажа, а ў вачах паяўляецца радасны ўспамін.

— Мы з адной вёскі, — папаўняе дзядзька Андрэй. — Я таксама яе пакахаў і мы пажаніліся. А на дабавак прынесла яна мне ў пасагу 3 гектары зямлі, карову і крыху збожжа. У той час, значыць 50 гадоў таму назад, гэта было многа. У мяне па бацьку асталося таксама тры гектары зямлі і так мы жылі, гаспадарылі.

На другі год пасля шлюбу нарадзілася першае дзіця — Аня. Цяпер яна разам з мужам жыве ў Бельску. Другі быў сын, якога назвалі Мікалаем. Іх дзяцінства і юнацтва праходзіла ў цяжкі ваенны час, і таму асталіся яны без адукацыі. Анна ў Бельску займаецца хатняй гаспадаркай, а Мікалай астаўся на гаспадарцы. Ён з гордасцю расказвае пра свае сельскагаспадарчыя справы, але за словамі, за радасцю ад дасягненняў недзе глыбока закараніўся жаль, што гэта ён астаўся без навукі.

Адукаваная частка сям'і Буракоў пачалася ад Уладзіміра.

— Дзеці мае, — расказвае дзядзька Андрэй, — вучыліся добра. Вось Валодзя закончыў пачатковую школу на адных пяцёрках. Рашыў я паслаць яго некуды далей, але не ведаў куды. Тады параілі мне звярнуцца ў беларускі ліцэй. Дырэктар Кастыцэвіч паглядзеў на яго пасведчанне і сказаў, каб прыязджаў. Я да смерці яго не забуду і дзеці мае таксама будуць заўжды з удзячнасцю ўспамінаць гэтага незвычайнага чалавека, які, як толькі мог, так дапамагаў людзям...

І дзядзька Андрэй узнімае тост за добрую памяць аб даўнейшым дырэктары Бельскага беларускага ліцэя — аб Яраславе Кастыцэвічу. Праз гэты ліцэй прайшлі ўсе яго малодшыя дзеці. Уладзімір, з 1934 года нараджэння, пазней стаў афіцэрам, камандарам-паручнікам ваенна-марскога флоту. Аляксандр, на два гады малодшы, маёр авіяцыі. І яшчэ адзін сын, самы малодшы ў сям'і Буракоў, Сяргей, таксама выбраў прафесію афіцэра Людовага Войска Польскага. Цяпер ён у званні капітана, накіравалі яго ў Акадэмію генштаба.

Пасля лётчыка Аляксандра, але перад пехацінцам Сяргеем, была ў Андрэя і Ганны яшчэ дачка Марыся. Яна цяпер настаўніца. Жыве і працуе ў Беластоку.

Вось якая сям'я сабралася пад дахам старэнькай хаткі, каб адзначыць **залатое вяселле** сваіх бацькоў. Былі тосты, пажаданні і песні. Ад імя гмінных улад сакратар гміннага камітэта партыі ў Орлі Галіна Кірылюк уручыла юбілярам медаль **„За доўгае сямейнае сужыццё“.**

У лёсе гэтай сям'і адлюстроўваецца лёс нашага народа. Распасціраецца ён на шляху ад старэнькай хаты да супернавейшай тэхнікі, даверанай дзецям Ганны і Андрэя Буракоў.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

## Наша галерэя



*Скульптура „Касманаўт“ Вячаслава Шума.*
*Фота Рыгора Жура.*

## Новыя вершы




Будзённых спраў высокае значэнне
Я спасцігаў у полі на раллі.
Парыў душы і творчае натхненне
Бяруць вытокі з роднае зямлі.

Тут першы крок і першая сцяжына.
І першая за плугам баразна,
З якою я ўваходзіў у Айчыну,
Каб смак акрайца жытняга спазнаць.

...Бяру сцяблінку тонкую ў далоні,
Бы чуйны провад між зямлёй і мной, —
Гудзе мембрана колаца бяссоннем,
Трывогаю і радасцю людской.

І чую я і сэрца перастукі,
І шум дажджу, і пераліў зярнят...
А мне здаецца, што сякераў грукат —
З раскарчаваных прадзедамі ляд.

**Віктар Хаўратовіч**

## М. Шаховіч. З народных гаворак




**вороне жыто** — доўгія чорныя зёрны, якія вырастаюць з жытняга коласа. Гэта тое, што інакш называюць спарыжом. Ты пуйды глянь, куолько ў нас воронёго жыта. Здаецца в тамтуом годы туолько нэ було.

**згоныны** — адпады пры малацьбе, але не тое, што ў польскай мове называюць „сьрута“, крышку буйнейшыя. Будуць гэта пераважна падробленыя каласы, а найчасцей адбітыя ад іх вусы. Одгорны спуод машыны згоныны. Подывысь, куолько згонын нагнало пуод машыну.

**погрэбыны** — частка грабляў, а дакладна папярэчная бэлечка, асаджаная на граблíску. Гэта тая частка, у якую ўстаўляюць зубы. Возьмы убы зубы в погрэбыны. Чого стаеш на погрэбынах, то ж поломыш.

**подціпок** — тыя снапы, якія кладуць на ток, каб малаціць цэпам. Іды, одсунэш подціпок, шо там на токовы лежыт.

**попэрэчнык** — кавалкі поля, якія пры заканчэнні арання трэба заараць упоперак. Всё зорав, зостався туолько попэрэчнык, але зачав падаты дождж, той нэ скуончыв.

**рудыль** — драўляны друк, за які конь цягне манеж. Нэ садовыэтэсь на рудыль, бо поломытэ. Бэз рудля манножа нэ потягнэш.

*(Старына, гміна Дубічы Царкоўныя)*




### ЦЯЖКА ЦЯПЕР МУЖЧЫНАМ ЮНАЦТВА

Падарaслеў нарэшце і хлопец. Замяніў ужо касцюмчык з нулёўкі на трыццатку. Купіў абутак па назе і людской прычоскай абзавёўся. І прыглянулася яму яна. Ён прабачыў ёй усё, нават тое, што дасюль карысталася яго законнымі прывілеямі і бесцырымонна апраналася ў яго вопратку, і нясмела запрапанаваў сустрэчу. Думаеце, адразу згадзілася? Дзе там! А калі згадзілася, адразу пачала ставіць свае ўмовы. Гэта яна назначае час і месца сустрэч, хаця зусім гэта не перашкаджае ёй рэгулярна спазняцца на іх, і гэтак далей і таму падобна, ды не пасмей пакрыўдзіцца.

Мала-памалу пачалі занікаць парогі, раздзяляючыя іх, і дайшло між імі да граху — першага ў іх жыцці. Яны страцілі нявіннасць. Выразна вінаваты ў тым абое, калі наогул можна гаварыць тут пра віну. Але аказваецца, што не, вінаваты толькі ён. Ён, бачыце, пазбавіў яе нявіннасці. Прабачце, а дзе ж яго, беднага, нявіннасць? Ці мужчына ўжо нараджаецца з кляймом віны? Так несправядліва. Гэта ж не наш прапрашчур абтрос райскую яблыню з забароненымі яблыкамі, спажыў іх і нават знаёмых пачаставаў. Ці ж забылі ўжо гэта? Калісь такіх вымаганняў дзяўчаты не мелі, бо ім на гэта не дазвалялася. І адносіны паміж дзяўчынай і хлопцам былі іншыя. Ініцыятыва належала заўсёды да хлопца, а дзяўчына павінна была пакарыцца яму. Няхай толькі не паслухаецца, то з танцаў вон, з кампаніі вон, а пры нагодзе можна і каласок завязаць. І такіх паскудных выдумак, як, напрыклад, белыя вальсы і танга, як цяпер, і ва ўспаміне не было. Бо яны, праўду кажучы, зусім і непатрэбныя. То хлопцы просяць на танец дзяўчат, то зноў дзяўчаты просяць хлопцаў — адна толькі блытаніна. Зрэшты, кожны хлопец сам дасканала ведае, калі і з кім мае танцаваць, а то яшчэ, чаго добрага, наясіся праз іх сораму: прастаіш увесь вечар у кутку, бо яны, па той ці іншай прычыне, могуць не запрасіць цябе.

А возьмем такую справу, як шароўка. Ці з сучаснай нашай адукаванай моладзі ведае хто, што скрываецца пад гэтым словам? Бадай, не. Проста прыгожае слова „шароўка“, з усім тым багаццем, што яно абазначала, памерла. А шкада. Вельмі шкада. Бо абазначала яно вельмі многа. Многія хлопцы толькі і хадзілі на вечырынкі для адной шароўкі. І дзяўчаты напэўна яе любілі, хаця адкрыта гэтага не выказвалі. А колькі ж мілых успамінаў аставіла шароўка ў многіх з нас, былых кавалераў. Я, напрыклад, калі ўспомню аб ёй, то адразу мілая ўсмешка ўсплывае на маім твары і грэшныя думкі лезуць у сівую галаву.

Вернемся яшчэ на момант да колішняй вопраткі нашых юнакоў і дзяўчат. Тут панавала больш-менш раўнавага і ў цане, і ў колькасці. Хлопец меў у асноўным і рабочыя, і святочныя: нагавіцы, пінжак, кажух, паліто ці бурку, а дзяўчына, таксама рабочыя і святочныя: саян, кофту, паліто і кажух. На галаве: хлопцы — шапкі, а дзяўчаты — хусткі. Калі і былі нейкія адхіленні ад нормы, то невялікія. У абутку напэўна мелі перавагу хлопцы. Дзяўчаты больш павінны былі шанаваць свае боты, чым хлопцы. Ідучы, напрыклад, у царкву, калі яна была далёка, неслі свой абутак у руках, каб абуцца толькі каля самай царквы. Хлопцы ў такіх выпадках ішлі ўсю дарогу абутымі, а калі каторы і нёс у руках, то абуваўся на значна большай адлегласці ад царквы, як дзяўчына. Вось гэта гармонія.

**Піліп Саскі**

## Беларускія прыказкі

Пашкадаваў воўк кабылу — пакінуў хвост ды грыву.

Пражорлівую свінню век не накорміш.



 

## ФОТА ПА ЗАКАЗУ

# BACCARA



Заказваў Юрка Трачук.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Кватэра, якая складаецца з аднаго пакою і кухні, займалі муж, жонка і маці мужа. Пасля разводу суд прызнаў кватэру былому мужу, а жонцы вызначыў шасцімесячны тэрмін для апаражнення кватэры. Пасля гэтага тэрміну яна асталася надалей у кватэры і згаджаецца аплачваць палову належнай жыллёваму кааператыву аплаты. Ці можа былы яе муж патрабаваць ад яе большай кватэрнай аплаты?

АДКАЗ: Былы муж мог бы патрабаваць ад былой сваёй жонкі заплату за кватэру за час, у якім яна згодна з рашэннем суда мела права займаць кватэру — толькі тады, калі б у рашэнні суда была пастанова, якая абавязвала б яе да заплаты за гэты час. Паколькі ў нашым прыкладзе рашэнне суда гэткага абавязку не прадбачыла, то былая жонка не мае абавязку плаціць за кватэру на працягу вызначаных судом шасці месяцаў. Адносна заплаты за кватэру за далейшы час, то былы яе муж мае права патрабаваць кампенсацыі за кватэру ў суме, прынятай у данай мясцовасці за гэткую кватэру. Зразумела, што трэба тут улічваць, што былая жонка не мае асобнага пакою, а пакой з кухняй займаюць тры асобы. Суд можа тут браць пад увагу таксама праўны і маральны абавязак, які выплывае з факту іх папярэдняга шлюбнага жыцця.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Мне, Астроне, прысніўся сёння непрыемны сон, і я адразу пішу да цябе. Снілася мне, што прыйшла да мяне знаёмая і кажа, што будзе дапамагаць мне прыбіраць у хаце. Я, зразумела, уцешылася. Ну, і пачалі мы з ёю рабіць парадкі. Яна нібыта чысціць, стараецца, завіхаецца, шаруе сталы на кухні, табурэты. Але дзіўная справа: да чаго яна не дакранецца і што не вычысціць, на тым месцы ізноў узнікаюць плямы, непрыемныя, рыжыя, тлустыя. Я гляджу, яна мые далей, а плямы паяўляюцца зноў і зноў. Прачнулася я з вялікім нясмакам і прадчуваннем нейкіх брудаў.

Аня з Беластока

**Аня з Беластока!** Ты не памылілася. Не вер сваім знаёмым, якія прыкідваюцца тваімі вялікімі прыяцелямі і людзьмі ўдзячнымі за дапамогу ў цяжкіх момантах. Яны і так у душы змяю носяць.

**Астрон**

## Куток практычных ведаў




### ЦЫБУЛЯ — ЗДАРОВАЯ!

Кажуць, што ў Асвенціме цыбуля выратавала тысячы людзей і дапамагла ім дажыць да вызвалення.

Цыбуля гэта не толькі гародніна, дыэтэтычная прыправа, але і цудоўнае лякарства, якое асабліва шырока прымяняецца ў народнай медыцыне.

Кажуць, у Францыі перад вайной быў славуты аўтамабіліст, які перад кожным этапам з'ядаў адну сырую цыбуліну, сцвярджаючы, што дзейнічае яна на яго арганізм і самаадчуванне лепш, чым найбольш цудоўныя прэпараты на ўзмацненне сіл.

Адзін жыхар Каўказа Насар Аламаў, які пражыў 136 год, на працягу ўсяго свайго жыцця штодзень еў талерку супу з чатырох цыбулін, а яго доўгавечныя сваякі рэгулярна елі сырую цыбулю на вячэру.

Вельмі славілі цыбулю ў старажытным Вавілоне і ў Рыме. У Польшчы першыя весткі аб цыбулі звязаны з прыдворнай кухняй Уладзіслава Ягелы.

Асабліва рэкамендуецца выкарыстоўванне цыбулі пры ангіне і наогул пры хваробах горла, як свайго роду антыбіётык. Цыбуля дапамагае рэгуляваць ціск крыві і ўсцерагчыся ад склерозу. Цыбуля вельмі дапамагае пры лячэнні цукровай хваробы, паколькі ў ёй знаходзіцца складнік, абніжаючы ўзровень цукру ў крыві. Суп з цыбулі — гэта не толькі нацыянальны прысмак французаў, але і лечыць хворых на цукровую хваробу.

Нельга не сказаць аб цыбулі і як добрым касметыку: ачышчаючы кроў, яна адначасова ачышчае скуру. Печаная цыбуля вельмі добра дапамагае пры розных нарывах і чырах, калі яе прыкладаюць на хворае месца.

Не варта ўжываць цыбулі пры хваробах печані і жоўцевага пузыра. Непрыемны запах пасля цыбулі ліквідуем, жуючы зялёную пятрушку ці зерне натуральнай кавы.

**Гаспадыня**




Дарагое Сэрцайка, два гады назад мой хлопец, Валодзя, якога я вельмі кахала, пайшоў у армію. Пры расстанні, мы абяцалі чакаць, пакуль Валодзя закончыць службу, а я школу, і тады пажаніцца. Так было ўвесь першы год. Я ездзіла да Валодзі, а ён, калі толькі мог вырвацца, прыязджаў да мяне. Ну і вядома, пісьмы адно за другім. Усё было ў парадку, але аднойчы сяброўка запрасіла мяне на імяніны. І там я спаткала Слаўка. Я паверыла ў каханне з першага погляду. Пачалі мы спатыкацца. Але да Валодзі пісьмы пісала я надалей. І час ад часу спатыкалася з ім. Так прайшоў другі год. Валодзя вярнуўся з войска, я закончыла школу. І прыпомніў ён мне, што пара жаніцца. Я прызадумалася і змяніла тэму размовы. Бо думкамі была я са Слаўкам, і здавалася, што яго я больш кахаю. Але памылілася. Пераканалася ў гэтым, калі ў нашай вёсцы была забава і прыехалі абодва хлопцы. Я пачала гуляць са Слаўкам. Валодзя заўважыў гэта, падышоў да мяне і сказаў: „Канец нашаму каханню, канец нашым планам, ашуканства цярцець не магу“. Больш я яго на забаве не ўбачыла. Але адчула ўсім сэрцам, як не хапае мне яго. І хаця надалей спатыкаюся са Слаўкам, не магу забыць цудоўных хвілін, праведзеных з Валодзем. А Славак стаецца мне ўсё больш чужы. Хацела б, каб вярнуўся да мяне Валодзя, але чула, што ходзіць ён з іншай дзяўчынай. Не ведаю, ці праўда гэта. Сэрцайка, як вярнуць мне Валодзю?

Люба з Бельшчыны

Люба! Можна сказаць, што каханне Валодзі запусціла ў тваім сэрцы глыбокія карэнні, а Слаўкава толькі павярхоўныя, бо проста Валодзі тады не было. А калі Валодзя з'явіўся, пачало і зусім сохнуць. Таму няма сэнсу яго прадаўжаць. Трэба старацца сустрэцца з Валодзем. Не будзе гэта цяжка, бо напэўна і ты Валодзі залягла глыбока ў сэрцы. І яму таксама, бадай, нялёгка замяніць цябе на іншую.

**Сэрцайка**

## Этнаграфічнае акенца



*Вёска Паўднёвы Востраў.* *Фота Я. Целушэцкага.*




**Многім вядома, як дзякуючы савецкім воінам быў выратаваны ад знішчэння фашыстамі горад Кракаў. Сярод тых, хто сарваў планы гітлераўцаў, быў і беларус Я. Н. Блізнякоў.**

Старшы інжынер экспедыцыі Нафтагазаразведкі глыбокага бурэння Яўсей Нікіфаравіч Блізнякоў вярнуўся з камандзіроўкі. На сваім службовым стале ён убачыў пісьмо. На фірменным канверце прачытаў: „Польская аб'яднаная рабочая партыя. Кракаўскі ваяводскі камітэт“. Што было ў пісьме, ён ужо здагадваўся. Яшчэ ў камандзіроўцы ён прачытаў у „Известиях“ кароткія нататкі пад загалоўкам „Героі Кракава“. Там пісалася: „У Кракаў выехалі былыя савецкія разведчыкі з групы „Голас“ на чале з Яўгенам Сцяпанавічам Беразняком — камандзірам групы, цяпер начальнікам упраўлення школ Міністэрства асветы УССР.

Савецкія разведчыкі прымуць удзел у святкаванні 30-годдзя вызвалення Кракава. Да гэтага святкавання яны маюць самае непасрэднае дачыненне. Члены групы „Голас“ удастоены вышэйшай ваеннай узнагароды народнай Польшчы „Віртуці мілітары“ і навечна занесены ў Залатую кнігу выратавальнікаў Кракава“.

— Не забылі... — сказаў інжынер, прачытаўшы пісьмо. — Шкада, канешне: спазніўся, але што зробіш...

У думках уявіў ён, як яго сяброў сустрэлі ў Кракаве. Прыйшлі, вядома, сакратар падпольнага ваяводскага камітэта Польскай рабочай партыі Юзэф Заёнц, яго жонка былая сувязная Валя, Юзэф Скомскі — былы разведчык, цяпер прафесар Ягелонскага універсітэта, Ян Новак — сялянскі сын, студэнт-медык, якому вайна перашкодзіла закончыць вучобу і жыццё прымусіла лячыць людзей у вёсцы і ў партызанскім атрадзе. Дапамагала яму медыцынская сястра Інгібора, якая потым стала яго жонкай. Будуць там сёстры Стэфа і Рузя. Тады, калі іх бацька, селянін вёскі Санка, польскі патрыёт Міхал Врубэль уладкаваў у сваёй хаце савецкіх разведчыкаў — капітана Беразняка і радыстку Вольгу, яны былі яшчэ падлёткамі. Аднойчы раніцай, у час чарговай перадачы звестак Цэнтру, хату гураля акружылі гітлераўцы. Вольга не чула, як да яе падкраліся палявыя жандары. Яны схапілі яе за валасы і выцягнулі ў двор. Тут ужо ляжалі на зямлі Міхал Врубэль і яго дочкі. Каталі ўсіх па-зверску, як гэта маглі і ўмелі гітлераўцы. Дабіваліся аднаго: „Дзе камандзір?..“

А камандзір — капітан Беразняк (у той час Міхайлаў) прачнуўся ў гумне, у сховішчы, якое зрабіў савецкаму афіцэру Міхал. Ён чуў, як катавалі яго сяброў, ад іх яго аддзяляла тонкая сцяна, але дапамагчы ім нічым не мог і не меў права. Трэба было, сціснуўшы зубы, маўчаць. За радыстку Вольгу ён быў упэўнены — нічога не скажа. Міхал таксама вытрымае ўсё. Але дзяўчаткі ці вытрымаюць? Іх так па-зверску катуюць, а яны гавораць адно: „ніц не вемы“...

А ведалі ж. Толькі галавой кіўнулі б у бок гумна і, магчыма, скончыліся б іх пакуты. Нічога не сказалі. Усю сям'ю забралі ў лагер смерці Асвенцім. Міхал Врубэль там загінуў. Ужо пасмяротна Савецкі ўрад узнагародзіў яго ордэнам Айчыннай вайны І ступені. Стэфа і Рузя перанеслі ўсе катаванні і выжылі...

Вользе (сапраўднае імя Лізавета Валагодская) цудам удалося вырвацца з рук катаў. Вярнулася ў групу і працягвала выконваць свае абавязкі радысткі. А новую радыёстанцыю разведчыкам скінулі нашы лётчыкі...

Збяруцца недзе за сталом, ці можа цяпер, калі Блізнякоў думае пра іх, ужо сядзяць і шкадуюць, што разам з імі няма яго, камандзіра разведвальнага атрада групы.

— Можа захварэў, — скажа нехта...

— Я так думаю, — адкажа Яўген Сцяпанавіч, — інжынер Яўсей Нікіфаравіч зараз недзе са сваёй экспедыцыяй шукае на Палессі новыя паклады нафты, можа яшчэ і не ведае, што мы тут сабраліся...

„Трэба пайсці на пошту і даць ім тэлеграму...“ — падумаў Блізнякоў. Ён, здаецца, бачыў усіх сваіх сяброў па супольнай барацьбе, чуў іх гамонку. Валянціна зараз скажа:

— А памятаеце тую гісторыю з Юзэфам?... — усміхнецца. Тады, на станцыі ў Кракаве, калі ў час праверкі дакументаў Юзэфа Заёнца арыштавалі, на яе ўстрывожаным твары не было гэтай чароўнай усмешкі. Паліцэйскаму штосьці не спадабалася ў „аўсвайсе“ Заёнца. Валянціне і Беразняку пасля праверкі дакументы вярнуў, а Заёнца павёў...

**(Працяг будзе)**

